алы былі ягоныя замеры. Ен разумеў, што для запраўднага папраўленьня фінансаў ня выстарчыць узваліць усе цяжары на працоўную люднасьць, што толькі тады, калі і заможныя клясы возьмуць на сябе частку гэтых цяжараў, можна абараніць дзяржаву ад руіны і заграніцнага кантролю. Верыў, што буржуазія здабудзецца на ахвяры, а аздараўленьне фінансаў абапрэцца на роўнасьці ўсіх клясаў перад інтарэсамі „дзяржавы“ і „народу“.

І мы ведаем, што як толькі Грабскі зрабіў спробу абапёрціся на гэтай роўнасьці, як атрымаўшая ўладу буржуазія пасьпяшыла замяніць яго сваім чалавекам перш Лінда, пасьля Кухарскім. За гэты час мы перажылі нябывалы яшчэ спадак маркі, яшчэ большае павялічэньне інфляцыі, цяжар якой аканчальна зруйнаваў матарыяльна ўсіх, хто жыве працай сваіх рук, але за тое стварыліся варункі, пры якіх ня было ніякіх перашкодаў спэкуляцыі і вызыску.

Пан Грабскі, верны сваім дэмакратычным прынцыпам зноў ня траціць веры на аздараўленьне фінансаў пры шчырай ахвярнасьці ўсіх слаёў насяленьня. Што гэтая вера хутка будзе разьбіта, лёгка зразумець, бо буржуазія ня здольна на самаахвярнасьць; на пазбаўленьне хаця-б невялікай часткі сваіх даходаў і маемасьці дабравольна яна ніколі ня згодзіцца, а ўвесь цяжар дзяржаўных расходаў і расходаў па адбудове зруйнаванай вайной капіталістычнай гаспадаркі будзе старацца ўзлажыць на працоўныя масы. Хьена яшчэ зручней будзе чуць сябе, бо зможа ўсю віну за няўдачу фінансавага аздараўленьня зваліць на расхлябаную і слабавольную польскую лявіцу, якая, быццам, перашкодзіла зьдзейсьніць гэніальныя пляны Кухарскага.

Ня трэба забываць, што аздараўленьне фінансаў можа адбыцца толькі тады, калі адначасна будзе праводзіцца і аздараўленьне іншых галінаў дзяржаўнага жыцьця, а папярод эканамічнае, сацыяльнае і палітычнае вызваленьне прыгнечаных клясаў і ўраўненьне ў правах нацыянальных меншасьцяў, якія нізьведзены да грамадзян другога гатунку. Як далёкі ад гэтага пан Грабскі відаць хаця-б з яго заяваў прадстаўнікам розных клюбаў. Ніякіх рэформаў ён ня мае замеру рабіць; усё павінна застацца па старому; ды нават, каб гэтыя замеры і меў новы старшыня міністраў, дык зьдзейсьніць іх ня мог-бы, бо той конгломэрат палітычных партыяў, на якія будзе апірацца ягоны габінэт, ня мае абсалютна ніякае супольнае праграмы; у аснову істнаваньня габінэту паложаны компроміс, які як наагул кожны компроміс, ня дасьць ніякіх вынікаў апрача таптаньня на адным месцы.

Тое-ж самае, калі ня горш, і ў адносінах да нацыянальных меншасьцяў. Тут п. Грабскі проста баіцца нават закрануць гэтае пытаньне і выключае з сваё праграмы ўсё „што дражніла-б польскую люднасьць“ чытай эндэцкі шовінізм).

Хьенская прэса трыумфуе, што яе пагляд, што толькі „przyrodzony gospodarz“ можа правіць Польшчай, так лёгка і грунтоўна прышчапіўся польскай дэмакратыі, бо нават п. Тугут, не знайшоў у сабе сьмеласьці абяпёрці свой габінэт на блёку лявіцы і нацыянальных меншасьцяў—тэй фактычнай сілы, якая зваліла габінэт Вітаса—Карфантага, а імкнуўся абапёрці яго зноў такі на „польскай большасьці“ праўда цэнтро-лявіцовай, шукаючы падтрыманьня ў тых-жа Вітасаў і Карфантых. Страх паказацца меншым шовіністам, чым сама Хьена, прымусіў лідэра „польскага сялянства“ шукаць падтрыманьня ў хадэкаў і вітасаўскіх паўпанкаў.

Урэшце трэба адзначыць, што ўтварэньне „беспартыйнага“ ураду пана Грабскага нясе з сабою небясьпеку ўнясеньня новай няяснасьці ў працэс усё больш выразнага разслаеньня шырокіх масаў пад знакам клясовай барацьбы. Паскольку адкрытая рэакцыйная палітыка Хьены адкрывала ўсё новым і новым слаям вочы на сутнасьць справы, прычыняючыся да пераходу ў сьвядома-рэвалюцыйны лягер новых элемэнтаў, пастольку „беспартыйны дэмакратызм“ п. Грабскага можа часова затамаваць разьвіцьцё гэтага працэсу і павялічыць рады хістаючагася паміж правіцай і лявіцай дробнамяшчанства і сацыял-угадоўства.

**Кумельган.**

## Дваццатыя угодкі Б. Р. Г.

Сярод няўстаннае барацьбы за самое сваё істнаваньне, за кожную беларускую школу, за кожную нацыянальную ці грамадзянскую ўстанову беларускае грамадзянства Заходняе Беларусі, відаць, проста не знайшло часу і энэргіі адсьвяткаваць сёлета дваццатыя ўгодкі закладзінаў першае палітычнае беларускае арганізацыі — *Беларускае Рэвалюцыйнае Грамады.* І тым больш дзіўна, што гэты важны юбілей прапусьцілі там, дзе беларускае нацыянальнае жыцьцё разьвіваецца нармальна, дзе як раз пануюць элемэнты рэвалюцыйныя: у Усходняй Беларусі.

Вось, хоць пры канцы гэтага юбілейнага году гожа ўспомніць аб першым пачатку *арганізаванае* беларускае рэвалюцыйнае работы, які адносіцца іменна да самага канца 1903 году.

Дваццаць гадоў таму назад у самадзяржаўнай Расеі было яшчэ нічым неабмяжованае панаваньне найчарнейшае рэакцыі. Ад страшэннага палітычнага і сацыяльнага ўціску стагналі работнікі, стагнала сялянства, стагналі ўсе „інародцы“, дый усе жывыя сілы расейскага грамадзянства. Цэнзура забівала кожнае жывое слова. Аб адкрытай, легальнай палітычнай ці грамадзкай дзейнасьці ня было і гутаркі. Легальна не магла істнаваць ні адна паступовая палітычная партыя, ня кажучы ўжо аб сацыялістычных.

Але пад гэтым вонкавым спакоем, які характарызавала пагаворка „тишь да гладь да божья благодать“, па ўсей вялізарнай Расейскай дзяржаве, у-ва ўсіх рознаплямённых яе краінах бурліла ўкрытае жыцьцё, ішла патайная напружаная рэвалюцыйная работа, якая толькі ад часу да часу выяўлялася ці то ў выбуху сялянскіх разрухаў, ці ў работніцкіх забастоўках, ці ў тэрорыстычных актах на найбольш дадзеўшых народу прадстаўнікоў улады. У Расеі істнавалі ўжо дзьве вялікія тайныя „усерасейскія“ арганізацыі—партыі сацыял-дэмакратычная і сацыял-рэвалюцыйная, ды цэлы рад рэвалюцыйных і сацыялістычных партыяў у „інародцаў“.

У канцы дзевяцьдзесятых гадоў мінулага сталецьця ў Менску залажыўся беларускі гурток моладзі, на чале якога стаяў ініцыятар яго, Іван Луцкевіч. Хаця ў працягу ўсяго дзевятнаццатага сталецьця мы бачым спробы распачаць беларускую работу, аднак, ці то грунт для яе ня быў яшчэ падгатаваны, ці не знайшлося адпаведных людзей, а толькі ніяк не ўдаваліся высілкі паасобных людзей згуртаваць, зарганізаваць і павясьці плянова, увёўшы ў адно русло. Тварцу менскага гуртка ў гэтым больш пашэньціла: з гэтага арганізацыйнага ядра вырас увесь магутны сучасны адраджэнскі рух.

Першыя крокі гуртка былі чыста культурнага характару: імкненьнем яго была культурна-прасьветная праца сярод беларускага сялянства ў роднай мове, пісаньне і друкаваньне беларускіх кніжак, азнаямленьне грамадзянства і асабліва моладзі з беларускай гісторыяй і этнаграфіяй. Гурток у 1902 годзе перанёс сваю дзейнасьць у Пецярбург, дзе ў вышэйшых школах вучылася многа моладзі з нашага краю. Тут ён прыняў назоў „Кола Беларускае Народнае Асьветы“ і прыступіў да шырэйшае працы. Але тут жа сустрэўся і з непераможнымі перашкодамі, якія і папхнулі больш радыкальныя элемэнты на шлях рэвалюцыйнае барацьбы ня толькі за волю, але і за самае права беларускага народу на істнаваньне. Першай—жа перашкодай зьявілася трываўшая яшчэ тады ад 1865 году забарона беларускага друку.

Галавой гэтых радыкальных элемэнтаў, іх будзіцелем і арганізатарам зьяўляецца ізноў-жа Іван Луцкевіч, дух вечна рухавы, жывы, бунтаўнічы. Гэта ён распачынае збор грошы на выданьне заграніцай пры дапамозе і пад фірмай П. П. С. рэвалюцыйнае брашуркі „Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць“ (Лёндан, 1903). Гэта ён знаходзіць людзей, адпаведных дзеля рэвалюцыйнае работы сярод сялян і работнікаў. І з яго імем злучаюцца закладзіны першае беларускае палітычнае арганізацыі, якая сёлета павінна сьвяткаваць дваццатыя ўгодкі свайго істнаваньня.

Першымі сябрамі Беларускае Рэвалюцыйнае Грамады былі, побач з Іванам Луцкевічам, брат яго Антон Луцкевіч, Вацлаў Івановскі, Казімір Кастравіцкі (псэўданім Карусь Каганец), Віктар Зеледзей,—пасьля Аляксандар Бурбіс, Аляізія Пашкевічанка (псэўд. „Цётка“) і др. Арганізацыя абнімала тры цэнтры: Пецярбург, Менск, Вільню.

Зусім натуральна, што новая рэвалюцыйная арганізацыя ў сваей праграме і дзейнасьці ўвайшла на той шлях, па якому ішлі падобныя арганізацыі другіх народаў. Зьніштажэньне расейскага самадзяржавія, аўтаномія Беларусі ў фэдэрацыйнай Расейскай Рэспубліцы, зямля сялянам — вось былі галоўныя пункты йшчэ даволі туманнае праграмы партыі. На ёй адбіваліся з боку сацыяльнага пагляды і эсдэкаўскія, і эсэраўскія. Але, хаця па сваей агульнай ідэалёгіі большасьць дзеячоў яе стаяла на марксістаўскай праграме, яны зразу былі прымушаны перайсьці ў апазыцыю да Расейскае Сацыял-Дэмакратычнае Работніцкае Партыі, як з прычыны яе цантралістычнага становішча, так і з прычыны зямельнае праграмы, адкідаўшай падзел зямлі між сялянамі. Фэдэралістычная канцэпцыя эсэраў прыцягівала сымпатыі беларусаў да гэтага расейскага рэвалюцыйнага кірунку, але і іх зямельная праграма, абапертая на зямельнай „общине“ (супольным уладаньні зямлёй усей вёскай з пэрыадычнымі „перадзеламі“ зямлі дзеля ўраўнаваньня сялянскіх дзялянак адпаведна да лічбы душ у хаце), не магла здаволіць беларускіх рэвалюцыянераў, якія перад усім лічыліся з імкненьнем беларускага сялянства да індывідуальнага ўладаньня зямлёй, з адсутнасьцяй у Беларусі тыпу вялікарускае „общины“ і, урэшце, з чыста гаспадарчымі паглядамі. І вось мы бачым, што першыя беларускія рэвалюцыяне-

# Каляды на Беларусі.

Бадай усе галоўныя царкоўныя сьвяты, якія народ сьвяткуе, лічучы іх хрысьціянскімі, фактычна зьяўляюцца сьвятамі паганскага паходжаньня; толькі хрысьціянства, ня маючы магчымасьці ў першыя часы свайго пашырэньня перамагчы народныя звычаі—спадчыну вякоў, пературыла гэрыя паганскія сьвяты ў хрысьціянскія, зьвязаўшы з найважнейшымі мамэнтамі з жыцьця Хрыста, Маці Божае, сьвятых.

Праўда, народныя масы даўно ўжо забыліся аб пачатным значэньні гэных сьвятаў, але зьвязаныя з імі звычаі і абрады надоўга іх перажылі, ды патроху жывуць і цяпер. Аднак, няміласэрная рука часу сьцірае сьляды і гэтае астачы далёкае мінуўшчыны нашага народу: адвечныя звычаі і абрады шмат дзе зусім вывяліся, шмат дзе захаваліся ў дужа малой меры. А маладыя пакаленьні што—раз далей і далей адыходзяць ад спадчыны вякоў.

Да ліку паганскіх сьвятаў, ператураных у хрысьціянскія, належыць і тое сьвята, якое пачынаецца гэтымі днямі і зьвязана з Ражством Ісуса Хрыста. Ужо самы назоў, ужываны нашым народам: Каляды,—гаворыць нам аб тым, што гэта — сьвята бога Сонца, сымвалу тае жыватворнае сілы, што саграваe і дае сьвятло нашаму сьвету. Каб прыпомніць аб занікаючых старадаўных калядных абрадах, мы даем тутака невялікі нарыс А. Петрапаўлаўскага, надрукаваны ў 1908 годзе ў расейскім журнале „Этнографическое Обозрѣніе“ ў стацьці *„Коляды“ и „Купало“ въ Бѣлоруссіи.*

* * *

Каляды — сьвята зімовае. Яно зьвязана з ражственскім сьвятам і цягнецца таксама два тыдні. З нецярплівасьцяй чакае беларус гэтых сьвятаў; ужо ўпачатку Піліпаўкі дзяўчаты пяюць:

Ай, Калядачкі, вы барджэй, барджэй,
Вы нясіце нам у бліны драждждэй:
Нам Піліпаўка надакучыла,
Нам жамеры зубы праелі...

Да сьвята пачынаюць рыхтавацца дні за два, колюць сьвіней, робяць кілбасы; напярэдадні Ражства таўкуць у ступе пшонныя зёрны дзеля „куцьці“, кашы, якая абавязкова павінна быць на вячэру ў гэты дзень.

У часе Каляд бываюць тры Куцьці: першая—посная перад Ражством, другая — скаромная, ці багатая, перад Новым Годам, а трэцяя — посная перад Хрышчэньнем (Тры каралі). Найбольш любая беларускаму сэрцу багатая Куцьця:

Прыехала Каляда ўвечары,
Прывязла кілбас рэшата,
Кілбасы паставіла на стаўпе,
Сама-ж села на куце
У беленькім кажушку,
У чарвоненькім грабушку.

Беленькі кажушок—беленькі, новы гліняны гаршчочак; словы-ж „у чырвоненькім грабушку“ паказываюць, як старанна варыцца гэтая каша: яна павінна быць румяная, значыць зьлёгка запёкшыся зьверху, і гэная верхняя скарыначка мае напамінаць залацісты грэбень.

У часе таўчэньня першае Куцьці сыплюць жменю зярнят пшаніцы ці ячменю для кур у цэлы абруч, які мае выгляд поўнага кола, каб куры не бадзяліся, а заўсёды былі-б недзе недалёка ад хаты, наўкола яе, ды нясьліся-бы ў адным месцы. У іншых вёсках дзеля гэтае мэты ў самы дзень Ражства на падлозе вызначаюць вяроўкай кола і ў сярэдзіну пасыпаюць крыху куцьці.

У тыя тры дні, калі спраўляецца Куцьця, трэба пячы і бліны.

У працягу Каляд нельга рабіць ніякае работы, асабліва-ж нельга віць вяроўкі і круціць віткі на згароду (пляцень). Беларусы крэпка вераць, што за нарушэньне гэтага звычаю, асьвячонага вякамі, вінаватага хутка спаткае кара: у прыплодзе скаціны будзе нейкая загана. У радзіўшаеся жывёлы або ногі будуць калекія, быццам з іх нехта віў вяроўкі, або будуць дзьве галавы, або йшчэ нешта падобнае, ці будуць крывыя. Радзей такія няшчасьці бываюць з дзяцьмі. Беларусы так пільнуюцца гэтага загаду дзядоў, што ніхто не адважыцца нават вузла завязаць на вяроўцы. Калі хто праз няўвагу нарушыць гэты звычай, дык павінен у перадапошні вечар Каляд, на трэцьцю посную куцьцю, пры заходзе сонца разрубіць дзьве віткі на згародзе і кінуць іх на захад сонца, каб ня было ліха.

Бабы ў часе Каляд не прадуць і ня ткуць дзеля тае прычыны. Каб-жа хоць прыпадкам не нарушыць звычаю і не наклікаць гэтак біды, бяруць з лазьні венік, якім парыліся напярэдадні Каляд, і ў працягу сьвятаў мятуць ім хату, а пасьля—ў апошні сьвяточны дзень—разрубаюць яго і з пруточкаў вытыкаюць на сьнягу перад хатай кола.

У гэтых абрадах ясна выяўляецца адвечнае, цяпер прызабытае, стара-славянскае пакланеньне Сонцу, гэтаму цару прыроды, што пасьля доўгае, панурае зімовае пары ізноў варочаецца к людзям, ізноў дорыць іх сваей ласкай. Яно будзе ўсё большаць у меру большаньня дня, і затым усюды так яскрава адзначаецца форма сонца—кола.

У гэтыя дні, пасьвячоныя вялікаму божству Сонцу, можна ўміласьцівіць і ніжэйшых бажкоў. Гэтак на Каляды добра злажыць ахвяры Хлеўніку духу, які жыве ў хлявох. Дзеля гэтага ў досьвіткі першага сьвяточнага дня трэба забіць сароку,— а гэта вельмі трудна, бо гэтая мудрая птушка ў гэту раніцу некуды хаваецца. Забітую сароку за ногі падвешываюць на вушаку дзьвярэй, дзе стаяць коні. Такая ахвяра ўміласьцівіць Хлеўніка, які, калі гаспадар яго нечым угневіць, езьдзіць на яго конях уночы і тыя на раніцы бываюць у мыле. Калі-ж павесіць сароку, дык Хлеўнік будзе сваю злосьць спаганяць на ёй.

Да ліку другіх сіл прыроды, уасобленых стара-славянскай верай у паасобных божствах, належыць і Мароз. Некаторыя праявы гэтага ў беларускім звычаю лагодзяць і яго. На трэцюю Куцьцю ўвечары, калі ўся сям‘я сядзіць за вячэрай, гаспадар, гледзячы ў вакно, заклікае з вуліцы Мароз у госьці: „Мароз, Мароз, хадзі куцьцю есьці, а ўлетку па грачысе не валачыся: будзем зялезнай пугай біць!“ У іншых мясцовасьцях да гэтага дадаюць: „Не хадзі ні па бабох, ні па гур

Францыя нядаўна вельмі балюча скрыўдзіла Італію, рэзка адмовіўшы Мусоліні ўчасьця у Танжэрскай Канфэрэнцыі. Што датычыць Гішпаніі, дык нядаўнія паўстаньні ў гішпанскім Марокко (калёнія у Паўн. Афрыцы) і паражэньні гішпанскіх войск, вызваўшыя „генаральскую рэвалюцыю“ у краі і стварыўшыя дыктатуру Прімо Рівэра, зробленую, як добра ведае гішпанская апінія, не без дапамогі Францыі...

Вось як ствараецца і дасьпявае гэтак званы „лацінскі блёк“, які, паводле думкі Англіі павінен будзе калоць ззаду Францыю, калі яна павернецца сваім грозным „паветраным фронтам“ да Англіі і пачне пагражаць усім, хто не паслухае загадаў яе „наймацнейшай арміі ў Эўропе“...

І трафна кажа цытаваная львоўская газэта, што „сотня сухапутных пабедаў не заменяць аднаго паражэньня, якое Францыя панясе тутака на Сяродземным моры“...

Вось якія ангельскія пігулкі ад таго землятрасеньня, якое рыхтуе Францыя. **С.**

# Палітычныя падзеі.

## ПОЛЬШЧА.

Пасьля таго, як п. Тугуту не ўдалося сфармаваць новы габінэт, які мог-бы апірацца на левай палавіне Сойму, Прэзыдэнт Рэспублікі даручыў утварэньне габінэту п. Уладыславу Грабскаму, які быў міністрам фінансаў у габінэце ген. Сікорскага і прымушаны быў выйсьці ў адстаўку пасьля пераходу ўлады ў рукі Хьена-Пяста.

П. Грабскі галоўным пунктам сваей праграмы паставіў направу скарбу і перш меў утварыць габінэт, у які ўваходзілі-б прадстаўнікі і правіцы і лявіцы. Пасьля перагавораў з рознымі соймавымі клюбамі п. Грабскі мяняў намечаны сьпісак міністраў, аж ўрэшце 19-га сьнежня прадставіў Прэзыдэнту Рэспублікі сьпісак новага габінэту ў гэткім складзе:

Уладыслаў Грабскі—старшыня Рады міністраў і міністар скарбу,

Уладыслаў Солтан — міністар унутраных спраў,

Уладыслаў Выганоўскі—міністар справядлівасьці,

Ген. Казімір Сосноўскі—ваенны міністар,

Б. Міклашэўскі — міністар рэлігіных спраў і асьветы,

Яз. Кедронь—міністар прамысловасьці і гандлю,

К. Тышка—міністар дарагоўлі,

Л. Дароўскі—міністар працы,

З. Людкевіч—мін. зямельнай рэформы,

К. Бэртоні—кіраўнік мін. заграпічных спраў,

Яз. Рачынскі—кір. мін. земляробства,

М. Рыбчыньскі—кір. мін. публічных работаў.

Прэзыдэнт Рэспублікі зацьвярдзіў гэты сьпісак міністраў.

У чацьвер новы старшыня міністраў сказаў свае экспозэ ў Сойме.

Цікава зазначыць, што п. Ул. Грабскі, вядучы перагаворы з прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў заявіў, што адносіны яго да нацыянальных меншасьцяў будуць апірацца на істнуючыя законы, але ўсё, *што магло-б дражніць польскую люднасьць, выключыць з сваіх плянаў.*

Дзеля гэтага прадстаўнікі украінцаў п. п. Підгірскі і Васынчук заявілі, што ня бачаць з боку п. Грабскага імкненьня да зьмены ў дасюляшняй нацыянальнай палітыкі, і дзеля гэтага ня могуць выказаць яго габінэту даверыя.

Тое самае заявіў і старшыня Беларускага Клюбу пасол Тарашкевіч, дадаючы, што ня верыць у аздараўленьне фінансаў пры гэткіх адносінах ураду да польскіх грамадзян іншых нацыянальнасьцяў.

Пасьля дыскусіі над экспозэ старшыні міністраў Ул. Грабскага ў іменным галасаваньні Сойм выказаў даверые новаму Ураду. За даверые галасавалі эндэкі, хадэкі, хр.-нар., пяст,—193 галасы, проціў украінцы, беларусы, камуністы, жыды і немцы (76 гал.); Вызваленцы і P.P.S. устрымаліся ад галасаваньня.

---

Адстаўка маршалка п. Ратая Соймам не прынята да ведама.

---

У Варшаве адбылася канфэрэнцыя прафэсыянальных саюзаў. З прычыны таго, што правадыры P.P.S. запрапанавалі рэзалюцыю, у якой нападалі на дзейнасьць камуністычнай партыі, прадстаўнікі многіх праф. саюзаў пакінулі паседжаньне і ўчасьця ў галасаваньні ня бралі.

---

Польшча ўрэшце прызнала ўтварэньне Саюзу Радавых Сацыялістычных Рэспубік.

## Пастуляты Беларускага Пасольскага Клюбу.

У часе перагавораў п. Тугута ў справе утварэньня габінэту, Беларускі Пасольскі Клюб выставіў гэткія мінімальныя дамаганьні, ад выкананьня якіх ставіў у залежнасьці сваё падтрыманьне габінэту Тугута:

1) Зьмяншэньне выдаткаў на войска; 2) неадкладнае спыненьне асадніцтва; 3) рэвізія ўсіх вастрогаў і неадкладнае ўручэньне актаў абвінавачаньня арыштаваным беларусам; 4) утварэньне беларускага падсэкрэтар'яту альбо міністэрства беларускіх справаў, 5) звальненьне Навагрудзкага, Віленскага і Беластоцкага ваяводаў, а ў першую чаргу Навагрудзкага і назначэньне на яго мейсца беларуса; 6) дапушчэньне беларусаў на дзяржаўную службу.

У справе беларускай асьветы Клюб дамагаўся: скасаваньне школьных вокругаў на абшарах ваяводзтваў Віленскага, Навагрудзкага і Беластоцкага і ўтварэньня аднаго школьнага вокругу. Заступнікам куратара павінен быць беларус; у Навагрудзкім ваяводзтве школьныя інспэктары павінны быць беларусы; неадкладнае адкрыцьцё 100 беларускіх школаў, 2 вучыцельскіх сэмінарыяў і аднэй гімназіі.

Клюб паставіў варункам, што п. Тугут уключыць гэтыя пастуляты ў сваё экспозэ і зложыць адпаведную дакларацыю.

## АНГЛІЯ.

Новы парлямант зьбярэцца ў палове студня. Пасьля троннай прамовы распачнецца дыскусія, вынікам якой, трэба спадзявацца, будзе адстаўка консэрватыўнага ураду. У такім выпадку місія ўтварэньня новага ўраду будзе даручана лідэру Партыі Працы, Мак-Дональду. Партыя Працы як мы ўжо пісалі, мае ў сваей праграме высокае ападаткаваньне капіталістаў і нацыяналізацыю вялікіх прадпрыемстваў. Калі лібэралы не падтрымаюць у гэтых пытаньнях Партыі Працы, дык тады Мак-Дональд падасца ў адстаўку, альбо запрапануе распусьціць парлямант і назначыць новыя выбары. Цікава між іншым, што ўжо цяпер міністэрства заграпічных спраў зьвярнулася да Мак-Данальда, як да будучага міністра заграпічных спраў, каб ён выказаў свае адабрэньне для ангельскіх прадстаўнікоў у рапарацыйнай камісіі.

Лібэралы як Асквіт, таксама і Лейд-Джордж выступаюць проціў габінэту Бальдвіна.

## НЯМЕЧЧЫНА.

Урад Маркса, які атрымаў надзвычайныя паўнамоцтвы, дзякуючы падтрыманьню сацыял-дэмакратаў, у першую чаргу выкарыстаў гэтыя паўнамоцтвы для зьнясеньня 8 гадз. дня працы, дазваляючы прамыслоўцам ў паразуменьні з работнікамі павялічыць рабочы дзень да 10 гадз. І гэта ў той час, калі ў Нямеччыне лік безработных з кожным днём павялічваецца. Добра бароняць нямецкія сац.-дэм. інтарэсы работнікаў!

---

У Баварыі фашысты зноў павялічылі сваю дзейнасьць, рыхтуючы новы пераварот. Спадзяюцца, што ў хуткім часе фашысты зноў выступяць актыўна.

## ГРЭЦЫЯ.

Адбыліся выбары ў парлямант. Лібэралы атрымалі—250 мандатаў, рэспубліканцы—120 і аграрыі—6. Рэспубліканцы зарганізавалі дэманстацыі, у якіх дамагаліся зваленьня караля і абвешчаньня рэспублікі. Рада міністраў на спэцыяльным паседжаньні пастанавіла запрапанаваць каралю, каб ён на часе, пакуль новы парлямант аканчальна не ўстановіць формы праўленьня ў Грэцыі, выехаў заграніцу. Кароль пакінуў Афіны і выехаў у Румынію. Можна лічыць пэўным, што ў Грэцыі будзе абвешчана рэспубліка.

## С. С. Р. Р.

Чычэрын выслаў Прэзыдэнту Злучаных Штатаў Куліджу ноту, у якой выяўляе жаданьне ўзнаўленьня паміж абодвымі краямі прыязных адносінаў, якія-б апіраліся на падставах ўзаемнага няўмешваньня у ўнутраныя справы.

---

Узноўлены вываз масла з Радавых Рэспублік у Англію. Ужо вывезена 120.000 пудоў; у будучым годзе экспорт павялічыцца да 450.000 пудоў.

---

У некаторых заграпічных газэтах зьявіліся весткі, што з прычыны вялізарнага дэфіцыту мае быць зачынены Прамысловы Банк у С.С.Р.Р. „Роста“ падае, што гэтыя чуткі ня маюць ніякай падставы. Прамысловы Банк, ня гледзячы на вялізарныя арганізацыйныя расходы ня толькі ня мае ўбыткаў, але меў адзін мільён золатам чыстага даходу. Банк мае 40 аддзелаў ува ўсіх Радавых Рэспубліках. Банк мае зносіны з найбольшымі крэдытовымі ўстановамі заграніцай. Закладны капітал хутка будзе павялічаны.

---

**ГРАМАДЗЯНЕ! Дарагоўля расьцець. Выдаваньне цяпер газэты вымагае вялікіх коштаў. Зьбірайце сярод знаёмых ахвяры на беларускі прэсовы фонд! Падтрымлівайце сваю газэту акуратнай высылкай падпісных грошай. Захвочвайце да падпіскі другіх!**

---

званых малых народаў, даводзячы, што толькі ў вялікіх нацыянальна-дзяржаўных басэйнах можа да найвышэйшага людзкога тыпу даходзіць чалавек, што толькі вялікія „фабрыкі культуры вялікіх гістарычных народаў выпрабляюць паўнацэнныя агульналюдзкія вартасьці у-ва ўсіх галінах духоўнай творчасьці чалавека... Пад моцным ўплывам нямецкага духу праф. Зьдзехоўскі апраўдывае, так сказаць, „духоўны імпэрыялізм“ вялікіх народаў, у частцы прапаведуе вялікую „місію“ польскага духу „на ўсходзе“. Проці такога, гэтак кажучы, „чыста духоўнага гвалту“ ня было-б ні магчымасьці ні сэнсу абурацца і вясьці барацьбу... Але гэты практыкаваны „ў нябесным пляне“ духоўны імпэрыялізм вялікшага народу становіцца вельмі небясьпечным, калі, як у Польшчы, „ў зямным пляне“ пануе самая зьвярыная палітыка матар'яльнага гвалту, шалее „фізычны імпэрыялізм“, які ня толькі адбірае ў слабейшага народу магчымасьці свабоднага карыстаньня духам і культурай старшага народу, ламаючы яго арганічныя, нацыянальныя „фільтры“, але адкрыта і цынічна ставіць сабе, як мэту, фізычнае зьніштажэньне папаўшага ў яго рукі меншага ці малодшага народу...

Адказам на гэты супольны „Drang“, супольны гвалт абодвух саюзных імпэрыялізмам можа быць толькі, так сказаць, „зачыненьне нацыянальнай граніцы“, і „таможаная вайна“ з небясьпечным, руйнуючым „ўплывам“ і „ўвозам“ і — перадусім умацаваньне якраз тых самых „нацыянальных фільтраў“, праз якія павінны праходзіць у нашую душу ўсе гэтыя „ўплывы“, каб яны запраўды абагацілі наш дух, а не „расчышчалі“ ў нашай душы месца для чужога, „вышэйшага“ польскага духу...

Усе небясьпекі гэтай руйнуючай вольнае, самастойнае разьвіцьцё народнай душы, крадучае яе першародзтва ў свайго Бога-Прыроды, атручываючы яе пачаткавы біолёгічны оптымізм, без якога няма ані жаданьня ані сэнсу жыць, які зьяўляецца першым залогам бязьмежнага духоўнага росту народа, — ўсе гэтыя небясьпекі найлепш дэманструюцца на прыкладзе таго паэта, на сырым камлі беларускай душы якога была, здаецца, нават без усякага гвалту—самымі „гарадэльскімі“ мэтадамі зроблена гэтая прышчэпка польскай мовы і польскага „духу“...

Мы пойдзем разам з праф. Зьдзехоўскім па гэтаму пахнючаму саду беларускай душы Сыракомлі-Кандратовіча, але спрабуем яшчэ глыбей, як гэта зрабіў гэты прызнаны ўсім сьветам „тайнаслухач“ чалавечай душы ў найпякнейшых яе аспэктах, і пабачым, ці запраўды гэтая прышчэпка „кароны“ польскага духу дала моцны, жыцьцярадасны самасьцьвярджаючы — неперарможны ўзрост беларускаму караню ці „камлю“ душы паэта...

Калі на гэтае пытаньне мы атрымаем адказ дадатны, тады трэба будзе прызнаць, што беларускі камель бяз болю, як у сваё арганічнае прадоўжаньне можа ўрастаць у польскую карону... пры, зразумела, усіх тых выняткова спрыяўшых варунках і абставінах, якія калісь стварала для польшчыўшайся беларускай шляхты польская ўлада... Але-ж калі на нашае, як кожны зразумее, прынцыпова важнае пытаньне мы атрымаем адказ адмоўны, дык трэба будзе праф. Зьдзехоўскаму згадзіцца, што ня толькі яго талентна і шчыра сказанае слова аб „польска-беларускай“ душы Сыракомлі недасказана ім да канца, але—яшчэ й далей—што яго галоўная, прынцыповая „гарадэльская тэза“ аб бязумоўных дабрадзействах польска-беларускай „уніі“ аб дзьвюх народных душах... пад гэгэмоніяй польскага духа... — павінна будзе паддацца грунтоўнаму перагляду...

---

Як мы казалі, пакуль што мы абмяжоўваемся толькі рамкамі працы цытатаў і прыкладаў лекцыі праф. Зьдзехоўскага, якія перадусім маюць ужо тую бясспрэчную вартасьць, што запраўды шукаюць праўды і ўмеюць у пэўнай меры яе знайсьці,—значыць такому правадыру па духоўнаму саду паэта можна сьмела паверыць сваю руку...

Ня можа быць ніякага сумліву ў тым, што сам Кандратовіч афіцыяльна чуў сябе паляком, што ў пэўнай, а нават вельмі значнай, меры „гарадэльская ўнія“ ў яго душы сталася бясспрэчным трывалым фактам...

„Няма Літвы бяз Польшчы, ані Польшчы бяз Літвы“ (Літвы г. зн. Беларусі),—казаў ён сам у вядомым пазнанскім тосьце. Нацыянальна-палітычная сьвядомасьць у яго часы магла быць у ім толькі польская, і не аб тым мы будзем тутака вясьці нашую гутарку.

Мы ўсе настолькі прывыкаем да пэўных рэчаў, якія штодня бачым і чуем, што лічым іх зусім звычайнымі і зразумелымі і нічуць ня трывожымся, каб вытлумачыць сабе тое ці іншае, можа вельмі важнае ці вельмі ненармальнае зьявішча.

Як ведама, мы найлягчэй прывыкаем... да чужога гора, да чужога суму і спакойна тлумачым сталым асабістым ці нацыянальным „характарам“ ці „тэмпэрамэнтам“ тое, што зусім ня мае, а тым больш—не павінна мець—перадусім характару сталасьці, як рэч ненармальная, руйнуючае жывы дух асобы ці цэлага народу.

Гэты сталы сум асобы ці народу мае заўсёды свае глыбокія прычыны, і запраўдная актыўная любоў да таго ці да другога сьвядома ці несьвядома якраз кіруецца да гэтых найглыбейшых нетраў хворага духу і, калі яна зьяўляецца запраўднай сілай, дык і даконывае запраўдны цуда сцаленьня,—ўваскрашае заснуўшы ці забіты, ледзь тлеючы пачатны біолёгічны оптымізм нашай духоўнай прыроды...

Кожны ведае, што ў гэтым і зьмяшчаецца той „цуд ўваскрашэньня любоўю“, якое гэтак праславілі ўсе паэты ўсіх часоў і народаў...

Любоў уваскрашае радасьць жыцьця, асьвячае і асьвятляе ўсю прыроду навакола мяне, а перадусім—праслаўляе і благаслаўляе ўсю прыроду ўва мне самым—дае мне любоў да мяне самога, калі яе да таго ня было...

А паводле найлепшага, найпякнейшага азначэньня Спінозы, пачуцьцё радасьці ў маей сьвядомасьці зьяўляецца адбіцьцё аб'ектыўнага, рэальнага росту і пашырэньня маей душы—наагул усей маей запраўднай — прасьвятлёнай і асьвячонай істоты...

І значыцца—наадварот—пачуцьцё суму, жур-

# З Польскага Сойму.

**Прамова пасла Ф. Ярэміча** у справе сьпешнай прапазыцыі паслоў Беларускага Пасольскага Клюбу аб надужыцьцях паліцыі ў Косаўскім павеце.

Высокая Палата! Ад папярэдняга і сучаснага ўраду ў іх экспозэ мы чулі завярэньні, што маюць замер увясьці найбольш радыкальныя зьмены ў адміністрацыі на т. зв. Усходніх Крэсах. Але ніякіх зьменаў ад таго часу мы ня бачым, затое сучасны ўрад увёў сыстэму ўпраўленьня, дзякуючы якой пачалі пышна цьвісьці засьценкі сярэднявяковай інквізіцыі. Відаць, пэўна група адміністрацыі ўважае гэта за тыя зьмены, якія абвесьціў сучасны ўрад, бо ў працiўным выпадку не ўводзілі-б гэтай сыстэмы.

Усюды кажуць, што на Крэсах гуляюць банды. Гэта так. Банды гуляюць. Калі будзе істнаваць гэтая сыстэма, дык і надалей будуць гуляць. У свой час я сказаў у адміністрацыйнай камісіі, што сама паліцыя фабрыкуе бандытаў. Сяньня гэтыя словы паўтараю. Бо, прашу паноў, што павінен рабіць сын, калі быў прысутным пры катаваньні 60 гадовага бацькі? Што павінен зрабіць брат, які бачыў, як знасілавана была ягоная сястра, а гэта мела мейсца ў Горадні? Калі гэтак будзе і надалей, дык бязумоўна люднасьць прымушана будзе сама бараніць сваіх элемэнтарных грамадзянскіх правоў.

Панове можаце сказаць, што люднасьць мае легальныя спосабы, але яна гэтых легальных спосабаў ня мае, бо на Крэсах няма правапарадка. І вось да сёньняшняга дня катуюць люднасьць ня толькі паліцыянты, але і вышэйшыя прадстаўнікі ўлады, як павятовыя камэнданты паліцыі, што мела месца ў Косаўскім павеце, дзе павятовы камэндант службова заклікаў у дзяржаўную ўстанову і скатаваў солтыса Паўла Мігеля з Косаўскай гміны. Куды мае йсьці гэты чалавек скардзіцца? Да таго самага камэнданта, каб яшчэ больш пабіў? Ці да старасты, які скажа яму: калі атрымаў дык маўчы, бо калі хочаш прававаца, дык атрымаеш яшчэ больш. Ёсьць яшчэ адзін шлях—пайсьці да пракурора. Пракурор зажадае доктарскага пасьведчаньня аб пабоях, але хто яму выдасьць гэтае пасьведчаньне? Прыватны доктар гэтага ня зробіць, бо пабаіцца пэўных пасьледстваў, урадовы-ж доктар таксама ня выдасьць пасьведчаньня, бо будзе баяцца страціць пасаду.

Праўда ёсьць яшчэ адзін шлях—зьвярнуцца да паслоў. Але, панове, тады гэткі грамадзянін рызыкуе наразіцца на яшчэ большыя няпрыемнасьці; проці яго тады могуць распачаць працэс аб прыналежнасьці да нейкіх антыдзяржаўных і „wywrotowych“ арганізацыяў. Цяпер, бадай, няма ніводнага украінскага ці беларускага пасла, выданьня якога-б не дамагалася пракуратура ў Сойма.

Павінна быць радыкальная зьмена, але ня ў тым сэнсе, як абяцае п. Міністар праз павялічэньне паліцыі; трэба каб гэтая паліцыя не прысылалася з Галіччыны, бо яна ня знае ні псыхолёгіі насяленьня, ні ягонай мовы. Радыкальная зьмена напярод павінна быць зроблена ў тым, каб скасаваць гэтыя засьценкі, якія істнуюць да сягоньняшняга дня; трэба заклікаць да службы мясцовую люднасьць, і тады будзе парадак і лад.

Далей прымушаны яшчэ раз зьвярнуцца да Высокай Палаты, каб нарэшце скончыць з усім гэтым бяспраўем. Гэтая антыдзяржаўная работа вядзецца не праз тых паслоў і людзей, якія цяпер крычаць, але праз тых урадоўцаў, праз тых адміністратараў, якія цяпер фактычна бяскарна бясчынствуюць на Крэсах.

Прашу Высокую Палату прыняць сьпешнасьць нашай прапазыцыі і выслаць камісію з учасьцем прадстаўнікоў Міністэрства Справядлівасьці і Міністэрства Унутраных Спраў, каб там на месьце былі сьцьверджаны надужыцьці, і камісія магла спыніць дзейнасьць, эвэнтуальна аддаць пад суд вінаватых у гэтых праступленьнях. (*Воклясі на лаўках нацыянальных меншасьцяў і лявіцы*).

# З газэт.

### Сымвалічная дата.

Есьць выпадкі, якія маюць сымвалічнае значэньне; да такіх належыць і развал правае польскае большасьці ў Сойме, а з ім разам упадак ураду п. Вітаса. Аказалася, што гэтае паражэньне „правіцы“ зышлося з угодкамі нягоднага забойства эндэкам Невядомскім першага прэзыдэнта Польскае Рэспублікі, Нарутовіча: абодва здарэньні сталіся 16 сьнежня. І ў гэтым—глыбокі сымвал: сымвал няўхільнае перамогі сьветлых, высокіх ідэалаў, якія ўасабляў забіты Прэзыдэнт, над духам ненавісьці, злосьці, самалюбства, якім пранікнута ўся эндэцкая партыя.

З гэтае прычыны „Robotnik“ піша:

> У гадавіны леташніх крывавых выпадкаў валіцца ўрад, у якім найвялікшую, кіраўнічую ролю іграла Хьена. Як красамоўна зыйшліся гэтыя дзьве даты! Якой компэнсацыяй для польскае дэмакратыі зьяўляецца факт, што на ўгодкі злачынства проці дэмакратыі і Рэспублікі творыць уладу правадыр сялянскае „лявіцы“—пасол Тугут—пад лёзунгам мірнага разьвіцьця дэмакратыі і забясьпечаньня, угрунтаваньня, расьцьвету Рэчыпаспалітай!

Паміnaньне забітага Нарутовіча прадстаўляе—побач з справай перамены ўраду — галоўную тэму польскае паступовае прэсы з 16 сьнежня пры поўным маўчаньні правае прэсы. І гэта так панятна: эндэкі, каб ня страх перад судом, паміналі-бы не забітага прэзыдэнта, а ягонага забойцу — „свайго“ чалавека....

### Ізноў Обст.

Іоганн Обст узяў на сябе абавязак запаўняць усе эндэцкія газэты ў розных мястох Польшчы сваей дадзеўшай ужо на віленскім грунце брахнёй аб беларусах. Самыя бязглуздыя выдумкі, якімі за апошні час эндэцкая прэса карміла сваіх чытачоў, зьяўляюцца так сыстэматычна і плянова, што іх можна было сьмела лічыць падгатоўкай цямнейшых элемэнтаў Польшчы да нейкага наскоку ўлады на беларусаў. Упадак эндэцкага ўраду аднак, разстроіў спадзяваньні эндэкаў. І хоць апошняе выступленьне Обста ў часопісі „Gazeta Bydgoska“ адносіцца йшчэ да часоў перад крызісам габінэту Вітаса, усё-ж мы тут адзначаем яго з прычыны лішне ўжо „п'янага“ тону обстаўскае стацьці „Gzem jest Białoruś“.

Новага Обст тут нічога не сказаў: „няма Беларусі“, „няма беларусаў“ — вось увесь зьмест ягонае карэспандэнцыі. Але ёсьць у ёй два мамэнты, якія паказваюць, што аўтар запраўды пісаў яе ў нецьвярозым стане. Так, у пачатку сваей стацьці Обст піша:

> Наагул самы назоў „Беларусь“, „беларус“ вельмі мала вядомы і быў ужываны не далей, як дваццаць гадоў таму назад, што-ж датычыцца мужыка, дык той непамерна зьдзівіўся-бы, калі-б яго нехта назваў „беларусам“.

Заўважайце: назоў „Беларусь“, „беларус“ мае ўсяго *дваццаць* гадоў жыцьця! А некалькі радкоў далей чытаем:

> Назоў „Беларусь“ быў афіцыяльна ўведзены Кацярынай II дзеля чыста палітычных мэтаў.

Ясна, што толькі нецьвярозы чалавек можа пісаць, што Кацярына II жыла 20 гадоў таму назад! Але што можна вымагаць ад Обста, які ня ведае, што яшчэ шмат раней за Кацярыну II цар маскоўскі Аляксей Міхайлевіч ужываў іменьня Беларусі ў сваім тытуле,—што продкі Обста, крыжакі, ў сваіх хроніках успаміналі аб Беларускім народзе ў XIII сталецьці, называючы беларусаў „Weissen Reuzen“. Шкада, што хоць гэтае ведамасьці ня прынёс Обст у падарунку сваей цяперашняй „ojczyźnie“, якую абдорывае толькі ненавісьцяй да „інародцаў“ і — брахнёй на ўсіх, хто не паляк!

Не ўваходзячы ў спoркі з такім „гісторыкам“, як Обст, і не бяручыся яго пераконываць аб тым, аб чым ён зусім сьвядома піша такія фальшы, мы тут паправім толькі некаторыя цыфровыя даныя Обста аб „Нашай Ніве“. Обст піша, што „Н. Н.“ выходзіла ў лічбе 500 экзэмпляраў. Вось-жа Обст „памыліўся“ роўна... ў шэсьць разоў: „Наша Ніва“ выходзіла ў лічбе 3.000 экз., а яе папярэдніца ў тым-жа 1906 годзе „Наша Доля“—ў лічбе 10.000 экз.

### „Сыр'ё і прынцыпы“.

Пад такім загалоўкам „Kurjer Polski“ друкуе перадавіцу аб прызнаньні Італіяй de jure Саюзу Сацыялістычн. Радавых Рэспублік за... выгодную для Італіі гандлёвую ўмову!

Аднак, „Rzeczpospolita“ сумляваецца, ці Італія здолее атрымаць абяцаныя ей эканамічныя карысьці. Калі гэта запраўды — рэч

---

бы, тугі—адбівае аб'ектыўны працэс аб'ядцаньня, звужэньне душы...

Значыць, запраўдная любоў дае новыя магчымасьці росту, разьвіцьця, расшырэньня маей самастойнай істоты, што якраз і дае, паводле Спінозы, аб'ектыўна абаснаваную радасьць маей сьвядомасьці...

Але запраўдная любоў павінна зрабіць яшчэ адзін, ужо апошні, крок: настолькі ўваскрасіць свой жывы прадмет, каб ён не патрабаваў ужо, гэтак кажучы, настаяннага даплыву звонку гэтай уваскрашаючай цудатворнай сілы, без якой ізноў пачыналі-бы вянуць і тухнуць сьвятло і радасьць унутры і вонках яго...

Запраўдная любоў павінна, як пекна кажа Лявон Талстой, „заразіць на ўсё жыцьцё“... Толькі тады любоў запраўды даканае свайго цудоўнага чыну, калі яна настолькі „заразіць“ чалавека ці цэлы народ сваей сілай, што прабудзіць у іх іхнюю ўласную любоў да саміх сябе, і прытым — настолькі, каб якраз гэтая іхняя любоў да саміх сябе ўжо сама без даплыву і помачы звонку выпаўняла ўсю гэтую задачу бесканечнага і настаяннага ўваскрашэньня, даючы безперарыўнае пачуцьцё радасьці—адбіцьцё об'ектыўнага бязьмежнага росту душы...

Толькі тады, як кожнаму зразумела, уваскрашэньне ператвараецца ў запраўднае, не вымагаючае больш помачы звонку ўваскрашэньне асобнага чалавека ці цэлага народу...

І мы ведаем, што якраз гэтак і ставілася вялікая задача Адраджэньня ў пачатку Новага часу. Гэтак пачынаецца і забясьпечываецца і ўваскрашэньне да новага самастойнага жыцьця і кожнага асобнага народу і ў нашыя часы...

А калі мы прыпомнім, што той самы жыдоўскі філёзоф Спіноза, новае рэлігійнае самапачуцьцё якога магутнай хваляй ўвайшло у сьвядомасьць сучаснага чалавека, рэлігійны пантэізм якога зьяўляецца найглыбейшай рэлігійнай асновай і прадпасылкай ня толькі філёзофскай, але і палітычнай сьвядомасьці апошняга і рэспубліканскай схэмы сучаснага гаспадарства,—што той самы Спіноза вучыў, што любоў да Бога ў кожным з нас ёсьць ня што іншае, як любоў Бога да самаго сябе, што сам Бог, які жыве ў нас, у нашай душы, любіць сам сябе паўсюды ў Сусьвеце, а перадусім у нас саміх, бо Ён і ўся прырода—адно, дык мы добра зразумеем, што прабудзіць гэткую любоў у народа да самаго сябе, любоў, якая-б пачула сябе любоўю самаго Бога да гэтага народу, якая-б дзеля таго — шляхам гэтай бесканечнай радасьці бязьмежна расьціла-б і пашырала самастойна народную душу,—прабудзіць у заняпаўшым, падбітым народзе гэткае самапачуцьцё — зьяўляецца дапраўды першай і найвышэйшай задачай запраўднага рэлігійнага ўваскрашэньня народу...

---

Як-жа вырашыла гэтую аснаўную задачу ўваскрашэньня беларускага народу „гарадэльская“ любоў—унія старшага, вялікшага Духам польскага народу?..

Тыповы, можа найпякнейшы плод, гэтай любові—польска-беларуская душа паэзія Сыракомлі лепш за ўсё адказывае на гэтае аснаўное, прынцыпова-рэлігійнае пытаньне аб запраўднай вартасьці гэтай „уніі“ беларускай і польскай душаў... Бо кожнаму ясна, што якраз тут, а не дзе ў іншым месцы ляжыць запраўдны, рэлігійна—ахоплiваючы ўсе іншыя—палітычныя, культурныя і г. п. пытаньні, зьмест праблемы... Бо паэзія, гэта—тое самае, што запраўднае жыцьцё душы, і тут, у тым сьвятым аўтары ніякога фальшу быць ня можа, бо тут—самая крыніца жыцьця і жывога духу. Які-ж аснаўны „пафос“ усей паэзіі Сыракомлі знайшоў сам праф. Зьдзехоўскі?

Галоўны пафос беларускай душы паэта—гэта яго „пачуцьцё прыроды“. Паэт казаў, што ён пазнаваў наднёманскія сенажаці па іх паху, а дрэвы—па шуму лістоў... Але зусім слушна праф. Зьдзехоўскі кажа, што „да гэтага пачуцьця прыроды трэба прыглядзецца бліжэй“... Можа нават—бліжэй, як гэта робіць сам аўтар...

Тое, што піша праф. Зьдзехоўскі, паводле Рэнана і іншых позытывістаў, абазначаючых ня толькі народную душу—тыпы народнай псыхікі, але і нават і тыпы рэлігіяў, уплывы прыроды зьмяшчае многа праўды, але—ці шаноўны аўтор напраўду думае, што „пустыня ёсьці монотэістычна“, а пантэізм створаны сенажацямі і морам?!

Ня можа быць сумліву ў тым, што пачатныя рэлігіі тварыліся, як адбіцьцё, прадоўжаньне „пачуцьця натуры“, але ў далейшым кожная з іх ставіла сабе заданьнем—перамогу над гэтай пачатна дадзенай прыродай...

І тольк пакольки гэтая перамога зьдзейсьнялася ўдунутымі ў душу чэлавека яго рэлігіяй новымі сіламі Духа, пастолькі яго душа пачынала новы ўзрост, а з ім, як мы ўжо ведаем, і знаходзіла новую пашыраючую душу радасьць перамогі і творчасьці...

Дзеля таго яшчэ зусім не зьяўляецца апошнім адказам на нашае пытаньне тое, што сьцьвярджае аўтар аб агульным характары „безканечнай мэлянхоліі“, якая праймае ўвесь краявід Палесься, дзе ўрадзіўся і правёў амаль ня ўсё жыцьцё Сыракомля,—якая запраўдным „пафосам“ (цярпеньнем) адбілася ў паэзіі Сыракомлі.

Ня ў тым справа—для вырашэньня нашага пытаньня, з нашага пункту гледжаньня, што дала паэту родная беларуская прырода, але—ў тым галоўнае пытаньне,—што дала гэтай пачатна тыповай-сумнай беларускай душы паэта якраз гэтая „ўнія“ з польскім духам — для перамогі гэтай „бязьмежнай мэлянхоліі“ — для гэтага першага кроку запраўднага рэлігійнага акту вызваленьня з рабства прыродзе,—як залогу новага жыцьця,—запраўднага ўваскрашэньня ў сьвятле і радасьці...

„Litwa rodowita!“—пісаў Сыракомля ў „Дэмборогу“,—твая зямля сумная, тваё неба бяз блеску“. Так кажа сама аб сабе беларуская прырода вуснамі свайго паэта... Але хто-ж не разумее, што гэта—крык, гэта—прызыў да Сьвятла, да Блеску, да Радасьці, якую якраз і павінен даць той, хто прыходзіць, як быццам з неба, як вышэйшы, — з мацнейшым духам, з запраўднай цудатворнай любоўю,—нясе запраўдную „ўнію“ для духоўнага вызваленьня і—ўваскрашэньня?!

- Вучні Віленскае Беларускае Гімназіі адпушчаны на сьвяты 22 гэтага сьнежня. Заняткі распачнуцца 15 студзеня.
- У Менск прыехаў б. беларускі пасол у Польскі Сойм Ул. Каліноўскі.

## Весткі з вёскі.

**Язна,** Дзісенскага павету.

Што цяпер у нас у Дзісеншчыне тварыцца, дык не разьбярэш. Проста дзівішся: ці ёсьць закон, ці яго няма, ці ёсьць праўда і парадак, ці яны быльлём парасьлі. Дзе-ж гэта відана, каб паліцыянты на чале з сваім начальнікам аспірантам панам Туміловічам выпаўнялі пастановы судоў яшчэ не ўвайшоўшых у сілу і нават судоў, яшчэ не разглядаўшыхся, ці паступалі проці загадаў ураду, Сойму і Сэнату. Так, у вёсцы Княжына ў Хрыстыны Міхасевіч сілком забралі частку ўражаю. У вёсцы Сяргейчыкі, Язьненскай гміны грамадз. Міхаля Бабінскага выкінулі з памешканьня, ня гледзячы на тое, што срок рэквізіцыі памешканьня скончыўся 26 лістапада г. г. і пры дапамозе намесьніка войта Багуцкага самаўпраўна занялі дом. У гэты час у нашай гміне у сваіх знаёмых гасьціў судзебны сьледавацель Багданаў. Абачыўшы такія несправядлівасьці і гвалты па службе ўраднікаў, ён уступіўся за пакрыўджаных сялян, за што, бяз ордэру на права арэшту, падкамісарам паліцыі Крушынскім быў арыштаваны. Начальства пайшло на начальства. Але нам ад гэтага ня лепей. Два паны дзяруцца, а ў мужыка чуб трашчыць. **З.**

# УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## З Менску.

**„Прэч няпісьменнасьць“.** Цэнтральная камісія па ліквідацыі няпісьменнасьці на Беларусі мае арганізаваць беларускае таварыства „прэч няпісьменнасьць“.

Гэтае таварыства будзе мець сваёй мэтай прыцягненьне да справы ліквідацыі няпісьменнасьці ўсяго грамадзянства.

**Выдача ўзнагародаў працаўнікам па с.-г. выстаўцы.** Прэзыдыум Ц.В.К. Беларусі пастанавіў выдаць ганаровы дыплём за пасьпешную арганізацыю Беларускага павільёну с.-г. выстаўкі старшыні выставачнага камітэту Славінскаму і сэкратару Жывану.

Апошняму пастаноўлена выдаць таксама і грашовую ўзнагароду.

Апрача гэтага выставачнаму камітэту выдана 1500 руб. зол. на прэміраваньне другіх выдатных працаўнікоў па арганізацыі павільёну.

**У Беларускім пэдтэхнікуме.** Пэдагагічная камісія пры Наркамасьветы зацьвердзіла вучэбны плян для 4-га курсу Беларускага пэдтэхнікуму.

У плян уваходзяць 14 прадметаў, у ліку якіх ёсьць родная мова, мэтодыка роднай мовы, пазашкольнае выхаваньне, практычныя заняткі ў ўстановах Сацвыху, канфэрэнцыі, гісторыя літэратуры, гістарычны матэр'ялізм, астраномія і інш.

# Допісы.

## Беларусы у Амэрыцы.

(Ад уласнага карэспандэнта).

**Угодкі Усебеларускага Зьезду.**

15 сьнежня г. г. беларуская калёнія ў Чыкага ладзіла беларускую вечарыну з прычыны шостых угодкаў І-шага Усебеларускага Зьезду. На гэтай Вечарыне беларускі дэлегат Язэп Варонка зробіць даклад на тэму: „І-шы Усебеларускі Зьезд і яго значэньне“, а затым адбудзецца канцэрт са сьпевамі, музыкай і балетнымі скокамі. Ладзіць гэтую вечарыну ўзяўся Жаночы Гурток беларускай калёніі ў асобе: Веры Міхайлоўскай, Домны Курдзёнкавай і Ганны Шарабайчыхі.

**Беларускі Каапэратыў.**

На сходзе 23 лістапада г. г. беларусы паўдзённай (саўд-сайдскай) стараны места Чыкага ўхвалілі адчыніць для сваіх патрэбаў каапэратыўны рэстаран, на што мае быць складзена 2,500 доляраў. Чысты зыск ад рэстарану пойдзе на патрэбы беларускіх арганізацыяў на Бацькаўшчыне. Для правядзеньня гэтай пастановы ў жыцьцё абрана Камісія з Ігнатам Зырко на чале.

# Тэатр і мастацтва.

## „Пінская шляхта“ В. Марцінкевіча.

Спаміж драматычных твораў В. Дунін-Марцінкевіча „Пінская шляхта“ належыць да гэткіх пэрлаў бязклопатнага юмару, якую заўсёды з прыемнасьцю можна будзе глядзець са сцэны і якая, калі разаўецца беларускі тэатр, будзе неабходнай часткай правінцыяльнага рэпэртуару вандроўнай трупы.

Малады дзяцюк — вясковы Ромэо — кахае сваю пінскую Джульетту. Бацькі, моў роды Монтэгу і Капулеттаў у карыкатуры нізашто ня згодны багаславіць маладых, бо звадзяцца між сабой за тое, што адзін аднаго назваў мужыком, тады як яны з роду пінская шляхта! Апроч таго бацькі дзяўчыны хочуць сватаць яе за старога, але ўмеўшага ім спадабацца Кутаргу. Маладыя кідаюцца на хітрасьць і клічуць на вёску „асэсара“—„найясьнейшую карону“, каб пamірыў старых. Той умела кіруе справу гэтак, што пазвадзіўшыяся памірыліся, маладыя пажэняцца, і ўсе здаволены.

Публіка аднак на спэктаклю 16 сьнежня ня ведаем, ці была здаволена. Пастаноўка „Пінскай шляхты“, якая ёсьць прэмьерай ня толькі на віленскай сцэне, але, здаецца, на беларускай сцэне наогул, вымагала больш піетызму, больш стараннасьці. Прэмьера твору старага нашага клясыка Вінцука Марцінкевіча павінна была-бы быць свайго роду мастацкім сьвятам, але не няўдачнай вечарынай.

Музыка да „Пінскае шляхты“, як наогул уся музыка да твораў Марцінкевіча загінула і не дайшла да нас. „Пінскую шляхту“ ілюстраваў музыкай вядомы наш кампазытар і кіраўнік менскага хору Тэраўскі. На дзіва мы мэлёдыяў Тэраўскага не пачулі, але нейкую новую ня зусім складную музыку. Сьпевакі пялі так, што часам здавалася, што гэта з іх боку нейкі кабарэтны жарт, што гэта рэкорд немузыкальнасьці.

Але трэба пры ўсім гэтым адзначыць заслугу людзей, якія ўлажылі сваю працу ў апошнюю вечарыну. Той ня робіць абмылак, хто нічога ня робіць — кажа прыказка. Цяпер, калі беларускія спэктаклі зрабіліся ў нас рэдкім зьявішчам, вялікая заслуга нашай вучнёўскай моладзі, што яна не пакладае рук і ставіць спэктаклі пад кіраўніцтвам аднаго з сваіх пэдагогаў, які, як калісь у часы беларускіх інтэрмэдіяў прафэсар рэторыкі ў езуіцкай школе, з любашчай бярэцца за працу і са сваімі маладымі вучнямі fecit, quod potuit. Гэтакая праца разьвівае мілаваньне роднай літэратуры, разьвівае мастацкае пачуцьцё.

А калі ёсьць заганы, дык няма дзіва, бо няма ў нас ніякіх прымернікаў, бо ўсё трэба рабіць аднова, бо трэба пачынаць ад прымітыву.

Пасьля спэктаклю быў дывэртысмэнт. Але аб ім лепш ужо нічога не казаць...

**Spektator.**